# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 12 — 28 кастрычніка 1928 г. — № 12

## ЗЬМЕСТ.



# За падвышэньне ўраджайнасьці.

У час ажыцьцяўленьня лёзунгу «аб падвышэньні ўраджайнасьці» школа і настаўніцтва не павінны заставацца ў баку.

Наша працоўная савецкая школа пераважна будуецца з сельска-гаспадарчым ухілам.

Зусім зразумела чаму, бо мы жывём у краіне аграрнай і наш увесь Савецкі Саюз наогул і асабліва БССР зьяўляюцца краінай пераважна аграрна-земляробскай.

Наша школа зьяўляецца часткай жыцьця і завецца савецкай працоўнай у адзнаку ад старой схалястычнай, пабудаванай на рэлігійным дурмане—замаліваньні грахоў перад госпадам богам, чынапачытаньні—усё гэта справа даўно мінулых дзён.

Праца, вучэньне і змаганьне—вось стымулы нашае клясавае працоўнае школы.

Значэньне працы і асабліва сельска-гаспадарчае ў агульным будаўніцтве школы, незалежна ад яе ўхілу, удачна адзначыў Луначарскі (на III нарадзе Наркомаў Асьветы). „Нішто не дае такога багатага і ўдзячнага матар'ялу для агульнага разьвіцьця і навуковых ведаў, як прырода, як сельская гаспадарка. Тут сувязь і залежнасьць паміж асобнымі відамі труда, паміж асобнымі часткамі гаспадарчага і грамадзкага апарату наяўнае, даступнае азнаямленьню і вывучэньню; а непасрэдная датычнасьць з прыродаю, праца над яе матар'ялам зьяўляецца невычарпальнай крыніцай для навуковае адукацыі“.

Гэтым вызначаецца месца сельска-гаспадарчых заняткаў ва ўсякай школе.

У вясковай школе „сельска-гаспадарчы ўхіл павінен строіцца на сувязі ўсяго навучальнага пляну з вакаляючай гаспадаркай; школа павінна накіроўваць увагу вучняў на зьявы, найбольш частыя ў працэсах с.-г. вытворчасьці асобнай мясцовасьці, павінна рыхтаваць дзяцей да сьвядомага ўспрыйманьня зьяў вакаляючага гаспадарчага жыцьця, прывучаць разьбірацца ў іх; яна павінна даваць ім карысныя навыкі“. Сельска-гаспадарчая праца вучняў зьвязваецца з адукацыйнымі працэсамі. Вучань, які пройдзе такую школу, і пройдзе, так, як трэба прайсьці, то, калі ён стане сам гаспадаром, ня будзе весьці сваёй гаспадаркі «**падзедаўскі**». Ён абавязкова захоча ведаць, як правільна трэба пабудаваць і павесьці гаспадарку найвыгаднейшым чынам.

У сваім артыкуле „За падвышэньне ўраджайнасьці“, я да гэтага часу гаварыў аб зьмесьце сельска-гаспадарчага ўхілу ў школах, наогул, і ў вясковай у прыватнасьці—мяне могуць спытаць—дзе такую школу, ці настаўніка знайсьці, каб ён усе задачы с.-г. ухілу ў школе выканаў і ўраджайнасьць падняў?

Так можа спытаць толькі той, які скэптычна глядзіць на нашу школу з сельска-гаспадарчым ухілам і безнадзейна апушчае рукі, а ёсьць нават і настаўнікі такія, якія з насьмешкай глядзяць на сельска-гаспадарчы ўхіл школ і варварскі зьдзекуюцца, эксплёатуюць той кавалак зямельнае дзялянкі пры школе. Але такіх мала.

Большасьць настаўніцтва імкнецца да таго, каб перш дабыць зямельную дзялянку, а пасьля зьвязацца з аграномам, каб зрабіць узорнай сваю школьную дзялянку, каб навочна даказаць селяніну, якую карысьць дае гаспадарка ад плянавага яе выкарыстаньня.

Вопытных палёў на школьных зямельных дзялянках закладзена шмат па ўсёй БССР і яны даюць вялікую карысьць вакаляючаму насельніцтву і навочна даказваюць яе.

### Прыкладныя дзялянкі.

Для падмацаваньня сваіх слоў два прыклады—адзін з школьнае дзялянкі, а другі—ад простага селяніна, які, скончыўшы пачатковую вясковую школу, вядзе сваю гаспадарку вельмі культурна, хоць запісі свае вядзе амаль што „каракулькамі“, але прачытаць мазольныя значкі на дошцы, адзнакі ўдоеў ад каровы і ў спытках, адзнакі аб штогодных пасевах усякага збожжа. Першы прыклад—школьная дзялянка ў Галіцкай школе, Клімавіцкага раёну, Магілеўскай акругі, аб якой надрукавана заметка ў „Савецкай Беларусі“ ад 2 кастрычніка г. г., № 227 (2415) у старонцы асьветніка „200 пудоў з гэктару“, я лічу, што яе можна яшчэ раз паўторна перадрукаваць, там пішацца:

**«Са школьнага зямельнага вучастку ў 3 гэктары, які Галіцкая школа атрымала тры гады таму назад, настаўнік гэтай школы т. Рыгораў з аднаго гэктара атрымаў збожжа ў мінулым годзе—148 пудоў і сёлета—162. На будучым мяркуе павялічыць ураджай да 200 пудоў».**

Мерапрыемствы, якія ўжывае тав. Рыгораў—тыя самыя, якія раіць наша агранамія—(**шматпольле, пасеў палепшаным і адсартаваным збожжам, своечасовае ўзорваньне і пасеў, вясеньняе баранаваньне і інш.**).

**Школьная гаспадарка зьяўляецца ўзорам для акаляючага насельніцтва, апошняе абменьвае ў ёй палепшанае насеньне на сваё звычайнае».**

Вось вынік ад школьнае зямельнае дзялянкі і настаўніцкага ўдзелу ў падвышэньні ўраджайнасьці.

Вось вынік працы настаўніка на яго школьнай зямельнай дзялянцы—ужо 162 пуды з гэктару.

Мне самому прыходзілася быць на гэтай школьнай дзялянцы настаўніка Рыгор'ева ў 1926 годзе, калі ён з усяе дзялянкі на першую вясну на палове гэктару разьбіў разам з аграномам васьміпольны севазварот і разьбіў яго калочкамі. Цяжка было распачаць працу.

Тады галічане ўсьміхаліся „што гэта за палачкі натыканы на полі, ці не ад варон настаўнік паставіў, мусіць, хоча, каб ня вызьбіралі птушкі насеньня,—вось скупы, нават птушкам шкадуе".

„Птушкі" сваё паказалі праз якія небудзь тры гады. Цяпер, напэўна, не сьмяюцца, калі сартаванае, ды мажліва гатунковае насеньне выменьваюць, якое вырасла з абсаджаных калочкаў? Шляхі Галіцкае школы трэба пераняць усім іншым школам, якія маюць дзялянкі.

Другі прыклад—в. Валосавічы, Бабруйскага раёну і акругі, грамадзянін Макар Брацянкоў.

Скончыў толькі пачатковую школу, даўно зацікавіўся як арганізаваць культурную гаспадарку. З першых гадоў ня было блізка аграномаў, дык ён, атрыманыя ў пачатковай школе веды, папаўняў ад эканома з Шпілеўскага двара, надаядаў таму з рознымі запытаньнямі: „Чаму ў вас многа палеткаў?", „Чаму вы збожжа часта мяняеце?". Нашто гэта, ды чаму, для чаго? Ну надаядаў таму, сьляпіцай лез у вочы. Адтуль крыху навучыўся, а рэшту ад савецкага агранома пераняў, і гэтаму ня было спакою ад яго.

Але зазірнеце цяпер у яго гаспадарку, ды ня толькі ў яго, а нават к суседзям яго.

Гэты Макар Брацянкоў ужо садоўнік, ды нават не абы які садоўнік, дрэвы ў яго садзе маюць такія кроны, якіх я рэдка дзе сустракаў, адна ў адну; заснаваў коннае таварыства—маюць жарабца коштам у 1000 рублёў, быка, кныра, беднаце злучаюць дармова па пасьведчаньнях ад камітэтаў узаемадапамогі, добры садовы гадавальнік. Усім сваім суседзям насадзіў сады. Праўда, яны яго крыху лаюць: «Згары ты з сваёю культурнай гаспадаркай, Макар, яшчэ і нам, садоў насадзіў, за якія ўжо налогі плаці, а карысьці мы з іх яшчэ ня бачылі». Пра паляводзтва нічога не кажу, бо яно вядзецца па ўсіх правілах агранаміі, ужываюцца штучныя ўгнаеньні і гатунковае насеньне.

Сартавое ўласнае насеньне выменьвае насельніцтву бяз усякіх аплат і скідак. Праводзіць чыстку насеньня праз машыннае таварыства. Словам, культурная гаспадарка, ня сорам паказаць хоць каму, і ёсьць чаму павучыцца і запазычыць.

У Бабруйшчыне гэты «оазіс» і пры пескавой глебе можа радзіць, калі добра даглядаць і культурна ўсё весьці. Сам Брацянкоў і Наркамзему вядом, як культурнік.

Вось два характэрныя прыклады ўплыву школы, дзе ёсьць добры настаўнік і ўмее зацікавіць, альбо, калі патрэбна і арганізаваць культурную гаспадарку ці на школьнай дзялянцы, ці на сваёй уласнай пасьля аканчаньня нават вясковай пачатковай школы.

Больш-бы такіх Рыгор'евых і Макароў Брацянковых на Беларусі, то і ўраджайнасьць паднялася-б неўзабаве.

У падагульненьне трэба сказаць.

Мы сур'ёзна ставім пытаньне аб культурным вядзеньні нашае гаспадаркі і ўздыме ўраджайнасьці, калі мы хочам гэтага дасягнуць у бліжэйшыя гады і шырока распаўсюдзіць палепшаныя і рацыянальныя спосабы сельскае гаспадаркі, то трэба, каб гэта было ў першую чаргу справай самой школы, як культурнага асяродку, непасрэдна ўзьдзейнічаючага на сялянскае дзіця з самых маладых гадоў. Для дасягненьня гэтых мэт у школе зусім непатрэбна ўводзіць асобна агранамічнай спэцыялізацыі, тут толькі трэба дастатковы прыродна-навуковы агульна-асьветны багаж на глебе маленькага, прыстасаванага да дзіцячага ўзросту ўразуменьня і магчымая для яго сілы гаспадарка (агарод). Гарадзкая школа таксама не павінна заставацца ў баку ад гэтага важнага пытаньня. Але веды па гэтаму пытаньню трэба даваць ці шляхам выезду, ці выхаду за горад, экскурсіі і больш грунтоўна. Праграмы гэтаму спрыяюць.

Што-ж канкрэтна можна параіць настаўніку зрабіць для ўдзелу ў правадзімай кампаніі за падвышэньне ўраджайнасьці?

1. Усім настаўнікам неабходна добра задумацца над пытаньнем падвышэньня ўраджайнасьці сярод свайго вакаляючага настаўніцтва, карыстаючыся вопытам настаўніка Рыгор'ява з Галіцкае школы.

2. Усім настаўнікам уявіць сябе сэнс і вялікае значэньне с.-гаспадарчага ўхілу ў школе і практычна ажыцьцяўляць яго ня толькі тэарэтычна, але і практычна, закладаючы вопытныя палі на школьных зямельных дзялянках і вопытныя гароды.

3. Выкарыстаць агульныя сходы сялянства ў мэтах растлумачэньня сутнасьці і карысьці шматпольля, штучнага ўгнаеньня, чысткі насеньня і г. д., тут трэба поўная ўвязка працы і дапамога агранома, якіх яшчэ значна менш чым настаўнікаў.

4. Тым настаўнікам, якія маюць вопытныя зям. вучасткі, або агароды і праводзіцца праца, высьвятліць вынікі гэтае працы на старонках газэт, адзначаючы дасягненьні, станоўчыя і адмоўныя бакі ў працы вузорных палёў, гарадоў, каб гэтым даць магчымасьць другім настаўнікам узяцца за гэтую працу.

5. Нарэшце, усяму настаўніцтву неабходна ўзяць на сябе кіраўніцтва сельска-гаспадарчымі гурткамі пры хатах-чытальнях, нардамох, клюбах і іншых палітасьветных установах. Сельска-гаспадарчая прапаганда павінна заняць адно з першых месц у грамадзкай працы вясковага настаўніцтва на бліжэйшы пэрыяд. Кожны вясковы настаўнік павінен добра азнаёміцца з дырэктывамі партыі асабліва ведаць пастановы апошніх пленумаў па ўзмацненьні сацыялістычнага сэктару, усьвядоміць сэнс гэтых дырэктыў і праводзіць іх у жыцьцё.

Настаўніцтва наогул і вясковае асабліва не павінны заставацца ў баку пры разьвязаньні такога важнага пытаньня, як павялічэньне сацыялістычнага сэктару ў нашай сельскай гаспадарцы і падвышэньне ўраджайнасьці.

Настаўніцтва ўвесь час стаіць на варце гаспадарчага і культурнага фронту, дапамагаючы савецкай уладзе і выконваючы дырэктывы партыі па ажыцьцяўленьні лёзунгаў чарговых задач працы на вёсцы і ў гэтым пытаньні яно зойме належнае месца.

**Ал. Аніхоўскі.**

# МЕСЯЧНІК „ЗА ГРАМАТУ“

## ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ.

Правядзеньне месячніка «За грамату» выклікана цэлым шэрагам прычын, галоўная з іх—паставіць пытаньне ліквідацыі няпісьменнасьці першачарговай задачай перад шырокай савецкай грамадзкасьцю.

Акругі пачалі падрыхтоўку ня ўсе своечасова, частка акруг (Магілёў, Бабруйск, Віцебск і Менск) да гэтае працы падыйшлі з належнай увагай і своечасова, распрацавалі матар'ял для правядзеньня месячніка ў раёнах, склалі адпаведную думку сярод усіх савецкіх і грамадзкіх устаноў акругі, з боку якіх былі дадзены па раёнах указаньні аб правядзеньні месячніка.

Раёны маючы падтрыманьне з боку ўсіх устаноў змаглі распачаць сваю працу своечасова і пры належных умовах.

Частка акруг, як Полацкая і Мазырская, хаця і распачалі працу падрыхтоўкі да месячніка, але ж некаторае спазьненьне не давала магчымасьці шырока разгарнуць яе; раёны ня былі ў належнай меры падрыхтованы для правядзеньня гэтай кампаніі.

Праяўленая актыўнасьць акруговых працаўнікоў Мозыра і Полацку, у час месячніка, значна палепшыла справу ў раёнах, але-ж выраўняць канчаткова тыя хібы не было магчымым. Частка раёнаў узяліся сваімі сіламі за правядзеньне месячніка (Валынцы, Вула, Вушачы), а частка чакала ўказаньня зьверху і працы амаль што ніякай не правяла (Калінкавічы, Тураў, Расоны, Асьвея).

Аршанская і Гомельская акругі да месячніка зусім ня рыхтаваліся, не таму, што яны ня думалі яго праводзіць, а таму што гэтай справай ня было каму займацца. Акруговыя саветы т-ва „ПН“ адсутнічалі, а працаўнікі апарату Інспэктарыяту асьветы адводзілі гэтай справе зусім малое мейсца, у выніку чаго па акрузе месячнік магчыма лічыць сарваным. Ён пачаўся несвоечасова і пры адсутнасьці адпаведнай думкі навокал гэтага пытаньня ў кіруючых раённых працаўнікоў (Уваравічы, Буда-Кашалеўская, Каханава, Талочына).

Правядзеньне месячніка саўпала з пачаткам навучальнага году і трэба адзначыць, што такія акругі як Полацк, Мазыр і Віцебск увязалі гэтую працу поўнасьцю. Раёны мелі пэрспэктыўныя пляны ліквідацыі няпісьменнасьці, і раённыя працаўнікі змаглі вызначыць мейсца кожнай ячэйкі, кожнага сябра т-ва «ПН» у справе ліквідацыі няпісьменнасьці і правядзеньні месячніка, што па гэтым акругам і было зроблена.

Такія акругі, як Гомель, Ворша і часткова Магілеў у гэтай справе праявілі мінімум увагі, раёны ня мелі ў кастрычніку сеткі лікпунктаў, канкрэтна ня была вызначана тая лічба няпісьменных сярод якіх трэба было зьліквідаваць няпісьменнасьць у гэтым годзе (Буда-Кашалеўская, Уваравічы, Каханава, Талочына. Магілеў).

Апрача правядзеньня агітацыйнай працы і падрыхтоўкі да пачатку навучальнага году перад акруговым таварыствамі ставіліся задачы падвесьці матар'яльную базу ў работу т-ва «ПН» каб зьдзейсьніць стаячыя задачы ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці на гэты год.

Значны ўдзел у правядзеньні месячніка і навучальнага году прыняла студэнцтва. Усяго мабілізавана 500 студэнтаў, адзе-ж на мясцох гэтай лічбай не абмяжаваліся і пайшлі значна ўперад. Такі горад, як Полацк, мабілізуе 110 студэнтаў, а больш буйныя гарады паставілі перад сабой задачу зьліквідаваць няпісьменнасьць, пры дапамозе студэнцва, у адзін год.

Па акруговых гарадох, на сёньняшні дзень маем вучот няпісьменных, шырока разгорнута сетка лікпунктаў, пашырэньне адбываецца і далей. Некалькі горш справа абстаіць у раёнах. Вучот няпісьменных праведзен часткова, хаця сетка лікпунктаў і груп індывідуальнага навучаньня намечана па большасьці раёнаў.

Правядзеньне месячніку саўпала з камсамольскім паходам і трэба адзначыць, што т-ва «П. Н.», якое зьяўляецца першым барацьбітом за культурную рэвалюцыю, аказалася непадрыхтаваным па некаторых акругах. Бурна разьвіваючыся камсамольскі паход даў надзвычайна вялікі лік працаўнікоў у галіне ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. Акругі Гомельская і Аршанская не змаглі належным чынам выкарыстаць гэтых працаўнікоў, даць ім адпаведную нагрузку, а было імкненьне правядзеньне месячніка і справу ліквідацыі няпісьменнасьці цалкам перадаць камсамолу (Уваравічы). Большая частка акруг досыць добра выкарыстоўвае камсамол, першае мейсца сярод якіх займае Віцебская акруга (Сіроціна, Езярышчанскі р.) і Полацкая (Вула, Вушачы).

Чарговая задача ў далейшым выкарыстаць камсамольскі паход у напрамку росту якаснага і колькаснага складу ячэек т-ва «П. Н.». Трэба, каб кожны камсамолец стаў сябром т-ва „П. Н.“, гэта будзе адзін з лепшых вынікаў камсамольскага пахода і замацаваньня сумеснай працы на далейшы час.

Некалькі слоў адносна росту т-ва. Калі 3 месяцы таму назад, па прыблізнаму падліку, на Беларусі налічвалася каля 18.000 сяброў, то за адзін месяц мы маем узрост на 50 проц.

Наша задача, у далейшым павялічваць рост, наладжваць выхаваўчую працу сярод новых сяброў з мэтай падрыхтоўкі актыву, поўнасьцю выкарыстаць на практычнай працы і тым самым забясьпечыць жывое існаваньне ячэйкі ў далейшым.

Настаўніцтва прыняло актыўны ўдзел у правядзеньні месячніка. Амаль што ў кожным раёне на канфэрэнцыях пытаньні аб правядзеньні месячніка і пачатку навучальнага году ў лікпунктах абгаварвалася, выказываліся думкі, што кожны настаўнік павінен зьліквідаваць няпісьменнасьць у грамадзкім парадку сярод 5-6 асоб, пры кожнай школе павінен існаваць лікпункт.

Адзначаючы слабы ўдзел у справе правядзеньня месячніка ліквідацыі няпісьменнасьці з боку каапэрацыйных арганізацый, дзякуючы адсутнасьці належнай дагаворанасьці ў цэнтры, трэба гэту памылку ў тэрміновым парадку паправіць.

Праз друк высьвятленьне ходу месячніка было ня зусім дастатковым, гэтым пытаньнем ува ўсю шырыню занялася «Савецкая Беларусь», рэшта газэт адводзіла гэтаму пытаньню надзвычайна мала месца. Акруговыя газэты мала высьвятлялі, як праходзіў месячнік, за выключэньнем „Зары Захада“. Па некаторых акругах месячнік ня скончыўся—ён працягнут да 1-га лістападу. Падводзіць канчатковыя вынікі зараз нельга, але-ж трэба адзначыць, што грамадзкасьць навокал гэтага пытаньня ўзьнята на належную вышыню, неабходна поўнае выкарыстаньне яе з мэтай выкананьня тых заданьняў, якія пастаўлены партыяй і савецкай уладай перад т-вам «П. Н.» і органамі НКА ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

Раёны павінны правявіць максімум увагі, каб выканаць тыя пляны, якія маюцца ў іх на гэты год.

**Ульянін.**

# Настаўніцтва і ячэйкі бязбожнікаў.

Папоўшчына і сэктанцтва, выразныя выяўнікі антысавецкіх настрояў за апошні час, асабліва на вёсцы шырока разгортваюць сваю работу. Часта можна ўбачыць у млыне, на прызьбе, адным словам там, дзе зьбіраецца народ (вёска Паўсье, Койданаўскага раёну) асобу з бібліяй ці падобнай штукай пад пахаю, якая тлумачыць а сьвятасьці бога,—ратунку душы грэшніка і г. д. (асаблівае стараньне і ўменьне ў гэтым напрамку выяўляе нехі Красоўскі, жыхар вышэй памянёнай вёскі). А ці мала ў нас такіх вёсак? Наступу папоўшчыны ўсіх гатункаў, сэктанцтву мы павінны супроцьпаставіць антырэлігійную працу; наша заданьне,—настаўніцтва, узмацніць ячэйкі бязбожнікаў, дзе яны ёсьць, а дзе іх няма, абавязкова прыступіць да арганізацыі апошніх. Не сакрэт, што там, дзе антырэлігійная прапаганда пастаўлена, як сьлед, сялянства найчасьцей пераходзіць на шматпольле, выносіць пастановы аб зачыненьні царкваў, арганізоўвае школы, кааператывы і г. д.

У справе антырэлігійнай прапаганды настаўніцтва павінна прыняць самы актыўны ўдзел, стаўшы галоўным правадніком антырэлігійнай працы ў вёсцы. Каб належна павесьці працу ў гэтым кірунку, неабходна, перш за ўсё, арганізоўваць ячэйкі бязбожнікаў. Ячэйка павінна складацца ня менш, як з пяцёх чалавек, прычым, членамі ячэйкі могуць быць усе грамадзяне не маладзей васямнаццаці год, маючыя правы выбарчага голасу па канстытуцыі, грамадзяне, якія адкрыта парвалі з усімі формамі рэлігіі і жадаючыя працаваць у гэтым напрамку. Ячэйкі гэтыя павінны арганізоўвацца пры сельсаветах, хатах-чытальнях, чырвоных кутках і савецкіх гаспадарках. Як-жа павінны працаваць ячэйкі? «Ячэйкі ў сваёй працы павінны скарыстаць усе віды і формы антырэлігійнай прапаганды, якія толькі даступны на вёсцы: гурток, куток, насьценгазэту, лекцыі, гутаркі, вечары, экскурсіі, чытку газэты, распаўсюджваньне літаратуры, распаўсюджваньне газэты «Бязбожнік», паказальныя мерапрыемствы». («Антирелигиозный крестьянский учебник»). У нашым артыкуле мы ня будзем спыняцца на пасобных відах і формах антырэлігійнай прапаганды, дзякуючы таму, што яны ў агульных рысах знаёмы настаўніцтву—гэта раз, а другое—усе, хто цікавіцца гэтым пытаньнем, могуць знайсці ўсё ім патрэбнае ў „Антирелигиозном крестьянском учебнике» (Акц. издательское общество «Безбожник», сакавік 1928 г.). Трэба падкрэсьліць, што масавая работа ячэек павінна праводзіцца на вечарох пытаньняў і адказаў, лекцыях, і дзе гэта можна, дэманстраваць кіно-фільмамі.

Самы зьмест працы бязбожнікаў у вёсцы павінен быць цесна зьвязан з усімі культурна-асьветнымі і культурна-гаспадарчымі кампаніямі вёскі. Як вядома, галоўная задача камуністычнай партыі і савецкай улады ў вёсцы—сацыялістычная перабудова апошняй. Рэлігія-ж зьяўляецца тормазам гэтай перабудове,—вось тут і задача бязбожніка ўскрыць і паказаць усю фальш рэлігійнага фанатызму, давесьці, што папоўшчына і рознага роду сэктанцтва мае цесную сувязь з прыватным капіталам і кулацтвам—адным словам, з усімі ворагамі сацыялізму. Бязбожнік павінен весьці барацьбу з няпісьменнасьцю, з дзядоўскім спосабам апрацоўкі зямлі, забабонамі, знахарствам, п'янствам, хуліганствам і з усім тым, што мяшае культурна-гаспадарчаму разьвіцьцю вёскі. А што датычыцца матадаў антырэлігійнай прапаганды, то кожны бязбожнік павінен помніць пастанову антырэлігійнай нарады пры ЦК УсеКП(б)у красавіку месяцы 1926 г. «Антырэлігійная прапаганда ў вёсцы павінна насіць характар спакойнай, асьвярожнай гутаркі, паглыбленага прапагандысцкага ўплыву на сьвядомасьць слухачоў». Само сабою разумеецца, што прапаганда будзе мець посьпех тады, калі яна будзе пабудована на практычных прыкладах.

**Антон Лёсік.**

## АБ РАЙЁННЫХ ШКОЛЬНЫХ МУЗЭЯХ.

На працягу навучальнага году кожная школа ў раёне вядзе сваю працу. Кожная комплексная тэма ў выніку распрацоўкі павінна даваць шмат ілюстрацыйнага матар'ялу ў выглядзе малюнкаў, дыяграм, тых ці іншых мадэляў, пісьмовых прац. Самі настаўнікі павінны складаць пляны працы, на пасяджэньнях пэдагагічных рад па с.-с. абгаварваюць тыя ці іншыя пытаньні, пішуць даклады па пытаньнях выкладаньня тэй ці іншай галіны ў комплексе і інш. Раённыя мэтадычныя бюро таксама за год зьбіраюць шмат вельмі каштоўнага матар'ялу. Ёсьць ён і пры сямігодках. І звычайна ўвесь гэты матар'ял вікім потым не скарыстоўваецца, пакрываецца пылам і з працягам часу ад яго не застаецца нават і сьлядоў. Папробуйце адшукаць у вясковых школах ці сямігодках цікавыя рэчы мінулых гадоў. Іх няма. Вясковы настаўнік скажа, што ў яго няма шафы і належнага пакою для захаваньня такіх рэчаў, а ў некаторых сямігодках яны проста псуюцца. Ніхто ня зьверне ўвагу на тую каштоўнасьць, якая заключаецца ва ўсіх такіх ілюстрацыйных працах. Мы амаль на кожнай канфэрэнцыі асьветнікаў ставім даклады аб тым, як палепшыць працу школ,—даецца шмат добрых пажаданьняў. І ўсё на словах. Нікому ня прыдзе ў галаву свае словы пацьвердзіць належным ілюстрацыйным матар'ялам найлепшых вясковых школ ці сямігодак. Тыя дыяграмы, калекцыі расьлін, пісьмовыя працы, што дае комплекс, у дзесяткі разоў каштоўней за голы даклад.

Асабліва багаты матар'ял можа быць браны ў тых мясцох, дзе ёсьць пэдтэхнікумы і настаўніцкія курсы, у якіх пішацца шмат канспэктаў, складаюцца пляны працы пад кіраўніцтвам мэтадыстых, а таму вельмі каштоўных для вясковага настаўніцтва, якое часта скардзіцца на адсутнасьць указаньняў пры кіраўніцтве іх работай. Такім чынам само сабою напрашваецца пытаньне аб утварэньні пры кожным раёне такой установы, якая-б зьбірала ўсё тое, што дае школа ў выніках сваёй працы. Часта чуеш, што ў тым ці іншым раёне, ці горадзе была наладжана выстаўка прац, падагульваючых навучальны год. І ўсё, што на выстаўцы бывае, невядома куды прападае. Раённы музэй і будзе тым месцам, у якім такія рэчы захаваюцца. І калі настаўнік в вёскі будзе ў раённым цэнтры, то ён абавязкова зойдзе ў музэй пацікавіцца дасягненьнямі сваіх таварышоў і павучыцца на гэтых дасягненьнях. Тады і нашы раённыя асьветніцкія канфэрэнцыі будуць больш жывымі, бо к дакладам будуць ілюстрацыі. Раённыя мэтадычныя бюро павінны тэрмінова распрацаваць гэта пытаньне, абгаварыць яго на пэдрадах па с.-с. і прыняць меры к таму, каб з гэтага году прыступіць да арганізацыі такіх музэяў ці пэдгабінэтаў. Такі музэй можа сканцэнтраваць каля сябе ўсе мэтадычныя сілы раёну, вакол яго будзе разгортвацца і праца раённых мэтбюро.

Апрача таго, музэй можа дапамагчы сваімі малюнкамі і табліцамі, якія павінны выраблядца ў сямігодках, і вясковым школам, шляхам перасылкі іх туды, як гэта рабілася раней бібліятэкамі пры земствах.

**Архіпаў.**

# Мастацкае выхаваньне ў школе.

На разьвіцьцё і пашырэньне мастацкіх навыкаў сярод нашага вучнёўства, якія зробяць належны выхаваўчы ўплыў на школьную дысцыпліну і дысцыплінаванасьць моладзі наогул патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу нашай школе і грамадзкасьці, якія павінны зацікавіцца гэтым зьявішчам.

1 Мастацтва ва ўсіх яго галінах, пераважна паэтычная творчасьць, музыка і сьпевы мае шматбаковы ўплыў на чалавечую асобу, арганізуючы яе пачуцьці, ўміратвараючы душэўныя хваляваньні, папярэджваючы ганебныя і нікчэмныя ўхілы, эгоістычныя помыслы аб сваёй уласнай асобе, прывучаючы асобу калектыўна думаць і выказваць свае пачуцьці—радавацца, пакутаваць і хвалявацца разам з грамадою.

На гэтай глебе вырастаюць такія высокія чалавечыя пачуцьці як спачуваньне, гуманасьць і адчуваньне чужое бяды (спачуваньне) у адносінах да сваіх клясавых братоў.

2. Вывучаючы ў школе творы мастацкае літаратуры, слухаючы там прыгожую гармонію музыкі або сьпеваў, наша моладзь у школах будзе прывучацца сканцэнтроўваць свае думкі на зьмесьце твораў і дзеля цэльнасьці малюнка павінна будзе ў сваёй памяці захоўваць некаторыя дэталі, праз што пашыраецца багаж вобразаў, а разам з гэтым і ўзмацняецца памяць. Зразумела, што мысьліць вобразна можа толькі асоба з разьвітымі пачуцьцямі і належнай памяцьцю.

3. Вывучэньне мастацкае літаратуры, музыкі і сьпеваў у школах будзе разьвіваць здольнасьць нашага розуму рабіць параўнаньні, падагульваць і даваць належную ацэнку розным мысьлям, крытычна падыходзіць да сваіх і чужых думак, аналізуя іх ад пачатку і да канца.

Напрыклад—разглядваючы «Мёртвыя душы», «Ревизор»—Гоголя, або „Кар'еру т. Брызгаліна"—вучань знаёміцца з тыпамі, якім не павінна быць месца ў старонцы будаўніцтва сацыялізму і супроць нараджэньня і зьяўленьня якіх патрэбна весьці ўпартую барацьбу.

4. Пад уплывам творчасьці мастацкае літаратуры, музыкі і сьпеваў у школе ў вучняў маюць быць абуджанымі і эстэтычныя пачуцьці. Мастацкае харство, цудоўныя вобразы дадуць вучню надзвычайную асалоду і задавальненьне і будуць разьвіваць у вучняў імкненьне да ўсяго прыгожага, мастацкага і будзе адцягваць ад віхарошага дурнога.

5 Адным словам мастацкае выхаваньне ў нашых школах будзе дапамагаць разьвіцьцю і ўзмацненьню духоўных сіл нашае моладзі і падрыхтоўваць з іх сумленных і сьвядомых, моцных фізычна і духоўна грамадзян Савецкага Саюзу. А гэта нашай рэспублцы надзвычайна патрэбна.

У працы нашых самігадовых і іншых школ абавязкова патрэбна паглыбіць і працу па вывучэньню мастацкае літаратуры, сьпеваў і музыкі, распрацаваўшы і злажыўшы адпаведныя праграмы, а покуль гэтая справа яшчэ стала не аформілася,—паставіць вывучэньне па адпаведных гуртках, але ні ў якім разе не самапасам, а плянава і па праграме, разгледжанай і зацьверджанай пэдсаветам школы. І на гэты бок пара зьвярнуць належную ўвагу.

**І. Масюкевіч.**

# Настаўніцтва і культурная рэвалюцыя.

У аснову пляна культурнага будаўніцтва павінны быць палажаны тыя задачы народнай асьветы, якія забясьпечваюць культурны рост шырокіх мас працоўных (усеагульнае навучаньне, ліквідацыя няпісьменнасьці, масавае прафтэхнічнае навучаньня і т. п.).

З пастановы XV зьезду УсеКП(б).

Таварыш Рыкаў на XV зьезьдзе ЎсеКП казаў: «неабходна, каб усім стала зусім зразумела, што культура на даным этапу нашага разьвіцьця зьяўляецца для пасьпяховага гаспадарчага будаўніцтва тым-жа, што і баявое снаражэньне ў час вайны».

У нашых умовах, калі мы маем шмат няпісьменных у першы час культурнае рэвалюцыі перад намі стаіць пытаньне аб поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці, каб усе былі элемэнтарна пісьменныя, бо «элемэнтарная пісьменнасьць мас зьяўляецца асноваю ўсялякай культурнасьці». І вось у выкананьні гэтай задачы—у ўзброеньні няпісьменнага элемэнтарнай пісьменнасьцю, навучыць няпісьменнага чытаць кнігу, газэту, часопіс і т. п.—настаўніцтва павінна прыняць самы актыўны ўдзел і ў гэтай справе яно павінна сыграць пераважную ролю.

Вышэйшым асьветніцкім органам трэба паставіць перад настаўніцтвам асабліва перад гарадзкім аб ажыўленьні і ўзмацненьні шэфства настаўніцкіх калектываў над прадпрыёмствамі: фабрыкаю, заводам, працкалектывам і г. д. У тым напрамку, каб той ці іншы настаўніцкі калектыў у пэўны тэрмін ліквідаваў поўнасьцю няпісьменнасьць і малапісьменнасьць у падшэфным прадпрыёмстве.

Сыры чалавечаскі матар'ял,—дзетвара, перш-на-перш пападае ў рукі настаўніцтва. Яно павінна быць адказна за выхаваньне новага чалавека, а гэта зьяўляецца адной з важнейшых задач сацыялістычнага будаўніцтва. Выхаваць новага чалавека з школьнай дзетвары можна толькі тады, калі дзіцё прыйшоўшы з школы дадому, знаходзе там належачыя абставіны, ня супярэчачыя школьным. Мы-ж часта бачым адваротнае: бацькі не дазваляюць дзецям у час рэлігійнага сьвята наведваць школы, прымушаюць хадзіць у царкву, маліцца богу і г. д. Ад гэтуль бярэцца і антысэмітызм сярод дзяцей, бо адзін прыходзіць з сынагогі, а другі—з царквы. Значыць, настаўніцтва павінна праводзіць вялізарную работу сярод бацькоў сваіх вучняў. Дзецям школьнага ўзросту трэба скласьці ўмовы жыцьця як у школе, так і пазашколаю такія, каб для іх усё старое: рэлігія, старая ўлада і г. д. (пра што яны пазнаюць толькі з кніг, альбо з апавяданьняў старэйшых) зьяўлялася гнілым, хворым, памершым і ня здольным для ўжываньня. Гэтых дзяцей трэба весьці па тэй дарозе, па якой яны змогуць выйсьці тымі новымі людзьмі «аддаючыя ўсе свае сілы пралетарскай барацьбе і будаўніцтву камунізму»; людзьмі, умеючымі «працаваць па-новаму», «па рэвалюцыйнаму»; людзьмі высокай, сьвядомай, камуністычнай, а не палачнай дысцыпліны; людзьмі зросшымся з працоўным калектывам, зьвязаных з самымі шырокімі масамі няздольных зазнавацца; людзьмі глыбока ненавідзячых прыватніцкія навыкі, індывідуалістычную мараль і эгаізм мяшчан; людзьмі, якія і на рабоце, і ў быту былі-б простымі, скромнымі, уважлівымі таварышамі». Выхаваць гэтакі тып людзей,—новых людзей,—ня лёгка», але-ж з дзяцей школьнага ўзросту лягчэй, чымся з другіх узростаў. Трэба толькі паклапаціцца аб належных абставінах.

Адначасова з сваёй асноўнай работай у школе і грамадзкай работай пазашколай настаўніцтва павінна ўзмацняць свае веды на падставе марксызму і ленінізму. Бяз гэтага іх веды не пагадзяцца, бо без марксызма і ленінізма, асабліва на культурным фронце нельга прыйсьці да мэты, вызначанай сацыялістычным будаўніцтвам.

Кожны шаг у справе распаўсюджваньня ведаў сярод шырокіх мас працоўных ёсьць шаг прыбліжаючы нас да пабеды камунізму.

Настаўнік, у масы! Ты павінен на сваіх плячох вынесьці культурную рэвалюцыю ў мірнай абстаноўцы, як рабочы і сялянін вынесьлі Кастрычнікавую рэвалюцыю ў баявой абстаноўцы.

**Л. Нозік.**

# АБ ПЕРАКВАЛІФІКАЦЫІ.

Існуючая сетка пэдтэхнікумаў сваімі выпускамі ня можа здаволіць плянамерна вырастаючую сетку пачатковых школ квакіфікаванымі настаўнікамі і штогодна прыходзіцца пасылаць у школы зусім непадрыхтаваных працаўнікоў.

Кожнаму вядома карысьць ад такіх працаўнікоў. Першыя гады былі скарыстаны старыя настаўнікі, якія па розных прычынах пакінулі ў свой час школу, але гэтага запасу хапіла не надоўга. Зараз прыходзіцца прызначаць чуць ня ўсіх, хто толькі жадае, бухгальтароў, рахункаводаў...

Але жыцьцё не стаіць на месцы і з кожным годам прад'яўляе да нашай школы і асабліва да працаўнікоў усё большыя і большыя зацатрабаваньні.

Гэта ставіць перад намі пытаньне аб масавай перакваліфікацыі настаўніцтва. Арганізацыя розчага роду завочнага навучаньня празгортвае шырокую мажлівасьць е адрываючыся ад школы павысіць сваю адукацыю. Але на вялікі жаль на гэту справу, па папулярызацыі завочнага навучаньня, асабліва пэдтэхнікума ў дому, звярачваецца мала ўвагі. Здаецца, у гэтых адносінах піянэрам аказалася Аршанская акруга. З самага пачатку мінулага году акруговым праўленьнем саюзу па ўсіх раёнах былі праведзены спэцыяльныя даклады з мэтай папулярызацыі; пры папаўненьні мясцкомскіх бібліятэк былі набыты неабходныя падручнікі, праводзілася кансультацыя слухачоў праз дом ПА. У выніку гэтага, мы маем зараз сапраўдных слухачоў тэхнікуму больш 100 чалавек.

Ёсьць ужо і рэальныя вынікі—вясной некалькі чалавек вытрымала залікі і шмат пададзена заяў на асеньнюю заліковую сэсію. Пры гэтым трэба адзначыць, што трымаюць звычайна не па курсах, а па тэй ці іншай галіне за ўвесь тэхнікум. Ды і зразумела—не раскідаецца ўвага па ўсіх дысцыплінах, лягчэй дастаць падручнікі. Гэта трэба будзе прыняць пад увагу як пры распрацоўцы праграм, так і падручнікаў.

Пры падвядзеньні вынікаў за мінулы год высьвятляецца, што фактычна ўсю працу на мясцох праводзяць мясцкомы, працасьветы, а з боку райінспэктуры надта мала ўдзяляецца ўвагі гэтаму пытаньню. Былі выпадкі, калі райінспэктар адмаўляўся даць настаўніку водпуск для паездкі на канфэрэнцыю слухачоў, ці залікі. Калі, кажа, саюзу трэба перакваліфікаваць сваіх працаўнікоў, то хай заплаціць за прагул. «Ваша справа даць нам кваліфікаваных працаўнікоў, а наша—зьняць з працы, калі ён мала кваліфікаваны». З такімі інспэктарамі культурнай рэвалюцыі ня зробіш!

Трэба спадзявацца, што пасьля належнага наказу акруговай інспэктурай, справа перакваліфікацыі настаўніка будзе нашай агульнай справай.

Атрымліваецца ўражаньне, што і з боку Наркамасьветы таксама не ўдзяляецца належнай увагі гэтаму пытаньню, асабліва з боку падвядзеньня матар'яльнага базісу. У мінулым годзе было абяцана адпусьціць кожнаму тэхнікуму па 100 руб., але абяцанка здаецца засталася абяцанкай, а грошай то яны ня ўбачылі. Добра, што адміністрацыя тэхнікуму аказалася ня надта ганаровая і не пасаромілася прасіць у акруговага праўленьня саюзу паштакоў на адчыненыя лісты для пісьмовай кансультацыі слухачоў.

Вялікай перашкодай зьяўляецца яшчэ адсутнасьць спэцыяльнага выданьня часопісу, бо ўсе падручнікі настаўніку надта трудна здабыць. Над гэтым пытаньнем трэба задумацца Наркамасьветы і ЦП саюза.

**Міх. Шумэйка.**

# УВАРАВІЧЫ.

*(Падарожныя нататкі).*

Першая акруга майго вандраваньня для вывучэньня асобных галін культурнага жыцьця нашых раёнаў—Гомельшчына.

Станцыя Уза. На пэроне наперабой падскочылі рамізьнікі.

— Вам куды?..

— Сядайце завязу...

— Ня дорага вазьму...

Дагаварыўся са старым. Ён ахвотна згадзіўся давезьці мяне да Ўваравіч і запэўніў, што яго буланы цягавіты конік.

— А куды-ж едзеце?—запытаўся ён.

Я адказаў, што еду ў райвыканком. Дзед пакруціў галавою і сказаў, што райвыканкому ў Уваравічах няма, ён ёсьць толькі ў Будзе, а ў іх—Волвыканком.

— Гэтыя маладыя,—гаварыў далей дзед,—заўсёды шукаюць райвыканком, мой сын, калі прыяжджаў улетку, дык таксама пытаўся пра яго, але не знайшоў...

Буланы сунуўся, як спужаўшыся. І было чаго. Гэта яго зьмена—сталёвы конь—трактар савгасу Ўваравічы араў поле.

— Добры конь будзе,—сказаў дзед.

На пытаньне чаму «будзе» ён зазначыў, што гэта яшчэ жарабё, малады ён яшчэ і ня прыручаны.

Прыехалі. Яшчэ рана. Мястэчка нічым не адрозьніваецца ад іншых беларускіх мястэчак. Пахілыя хаты, гразкія вуліцы—наводзяць нейкі сум.

Я шукаю райвыканкому якога, паводле слоў дзеда Кузьмы, няма. За рэчкаю аднапавярховы цагляны будынак, з заплаканымі ад ранейшай вільгаці вокнамі. Над ганкам рудая шыльда:

> **РСФСР**
> **Уваровский Волостной Исполнительный Комитет.**

Так. Дзед Кузьма казаў праўду. Стала сорамна, што, едучы, я ня верыў яму, і абвінавачваў у думках, што ён ня ведае ўстаноў нашае Савецкае Беларусі.

Раённы інспэктар асьветы, які працуе ў гэтым раёне ўжо некалькі год, расказаў, што школы распачалі сваю працу своечасова, падручнікаў у іх даволі. Праўда ёсьць адна хіба ў працы школ—гэта тое, што ім часткова выдалі расейскія падручнікі, хоць пастанова пра перавод школ на беларускую мову даўно зроблена.

Як падрыхтавана настаўніцтва да выкладаньня ў школе на беларускай мове, высьвятліць мне цяпер не ўдалося. Можа і ня трэба аб гэтым ведаць. Але зусім выпадкова праглядаючы пратакол апошняй настаўніцкай канфэрэнцыі, можна было бачыць, што пратакол вёўся на расейскай мове і толькі часткаю на беларускай; гэта навяло мяне на думку, што настаўнікі Ўваравіч ня ўсе падрыхтаваны выкладаць на белмове.

Старшыня Раймясцкому Працасьветы з гонарам адзначыў, што ў гэтым годзе настаўніцтва раёну з 1-га кастрычніка выпісала 40 экзэмпляраў газэты «Савецкая Беларусь», а раней чыталі толькі расейскія газэты.

Мне стала ясна, што адно пытаньне засталося мала вядомым для шырокіх колаў насельніцтва, бо пра гэта шмат пісалася ў «Савецкай Беларусі», гэта пра месячнік «За грамату».

Па думцы аднаго адказнага раённага працаўніка на гэтыя пытаньн

# За разьвіцьцё пазашкольнай працы сярод дзяцей.

Аднэй з найбольш важных задач у галіне сацыяльнага выхаваньня, у сучасны момант, зьяўляецца разьвіцьцё сярод дзяцей пазашкольнай працы. Ня гледзячы на неабходнасьць і важнасьць гэтай працы, да гэтага году на яе не зьвярталася належнай увагі. Гэтым пытаньнем надзвычайна мала займаюцца грамадзкія арганізацыі. Бязумоўна, становішча пакінуць такім, як яно ёсьць, нельга.

Патрэбен рашучы пералом і чым хутчэй, тым лепш. Спынімся на асноўных пытаньнях гэтай працы.

Пазашкольная праца адрозьніваецца ад школьнай працы тым, што яна ня зьвязана з абавязковымі праграмамі, абавязковасьцю наведваньня. Пазашкольная праца, якая будуецца на дабраахвотнай арганізацыі дзяцей навакол розных грамадзкіх спраў, можа быць найбольш рухомай і прыстасаванай да зацікаўленасьці і запатрабаваньняў асобных груп дзетвары.

Посьпех разгортваньня пазашкольнай працы залежыць ад таго, наколькі да яе будуць прыцягнуты грамадзкія арганізацыі (КСМ, піанэры, прафсаюз, дабраахвотныя арганізацыі). На чаргове пэрыяд дарослыя арганізацыі павінны садзейнічаць правядзеньню шэрагу мерапрыёмстваў, якія накіроўваюцца да таго, каб арганізаваць і карысна папоўніць вольны час дзяцей.

Можна і трэба дабіцца таго, каб у рабочых клюбах вызначаліся асобныя гадзіны для пазашкольнай працы сярод дзяцей. У гэтыя гадзіны можна арганізоўваць ранішнікі для дзяцей, вечары, гульні і т. п. Тут можна максымальна разьвіць самадзейнасьць дзетвары, трэба толькі даць прытулак дзецям, а яны, пад кіраўніцтвам настаўніка і піанэрскага працаўніка, змогуць разгарнуць належную працу.

Трэба, каб у клюбах, якія будуюцца, вызначаліся асобныя дзіцячыя пакоі, дзе дзеці змаглі-б адначасна з дарослымі, не перашкаджаючы ім—арганізаваным парадкам праводзіць свой вольны час.

У бібліятэках рабочых клюбаў трэба мець сучасную дзіцячую літаратуру, трэба набыць папулярную літаратуру па пытаньнях выхаваньня дзяцей. Рабочаму неабходна даць такую кніжку, прачытаўшы якую, ён змог-бы элемэнтарна ўразумець асноўныя прынцыпы выхаваньня дзяцей, набыць элемэнтарна-пэдагагічны падыход да выхаваньня свайго дзіцяці. Нашым выдавецтвам патрэбна паклапаціцца аб выданьні папулярных брашур па пытаньнях выхаваньня дзяцей, разьлічаных на дарослага чытача.

Пытаньні пазашкольнай працы неабходна ставіць на абгаварэньне рабочых сходаў, асабліва тых прадпрыёмстваў, дзе працуе многа жанчын. Кожны рабочы цікавіцца тым, як яго дзіцё праводзіць свой вольны час. Гэта зацікаўленасьць павінна знайсьці сваё канкрэтнае вырашэньне ў шэрагу мерапрыёмстваў: асобныя пакоі для дзяцей пры клюбах, кватэрных таварыствах, збор грошы для кіно-ранішнікаў і т. п.

Разьвіцьцё пазашкольнай працы ёсьць справа і школ. Па магчымасьці, школа павінна арганізоўваць клюбную працу ў той час, калі не працуе (вячэрні час), пэдагагічны савет можа вылучыць з свайго складу настаўніка, які-б займаўся пазашкольнай працай і сачыў-бы за гуртковай працай вучняў. Галоўная задача заключаецца ў тым, каб школа ня траціла свайго ўплыву на вучняў і ў вольны час ад заняткаў.

У пазашкольнай працы можна добра скарыстаць кіно. Зараз арганізавана ў Менску спэцыяльнае дзіцячае кіно, гэта ўжо значна палягчае развязваньне пытаньня. Акрамя гэтага, можна арганізоўваць кіно-ранішнікі для дзяцей, арганізоўваць дэманстраваньне кіно-фільмаў вечарамі па школах. Пры ўмелай пастаноўцы гэтага пытаньня сярод бацькоў можна дабіцца асыгнаваньня на гэту справу належных сродкаў.

У іншых культурных установах трэба арганізоўваць спэцыяльныя дзіцячыя куткі (хаты-чытальні, народныя дамы). Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрывае піанэрская арганізацыя, яна павінна пазашкольнай працы вызначыць значна больш увагі, чым да гэтага часу.

Пры актыўнай дапамозе грамадзкіх арганізацый—пытаньні пазашкольнай працы павінны атрымаць вялікае месца ў сыстэме сацыяльнага выхаваньня.

**Міх. Лабадаеў.**

---

зьвярнулі мала ўвагі таму, што праводзілася шмат кампаній, больш «каштоўных».

Наогул пытаньнем ліквідацыі няпісьменнасьці цікавіліся ў раёне мала. Адпаведныя кіруючыя органы іх не займаліся, а яно стаяла толькі на настаўніцкай канфэрэнцыі. Уваравацкія настаўнікі гаварылі аб гэтым зашмат, часта ўспаміналі, што 3 рублі за чалавечую галаву, якую яны навучаць чытаць і пісаць—плата дужа малая і што да 3 рублёў трэба дадаць. Аб гэтым сьведчыць і рэзалюцыя па дакладу раённага інспэктара, дзе 5 пункт кажа: «Со ставкой оплаты за работу ликпунктов согласиться, а в отношении платы за занятия в группах (3 р. за голову) считать таковую недостаточно и ходатайствовать об увеличении платы хотя бы до рубля с человека в месяц».

Гэты пункт яскрава сьведчыць, што выкарыстаньне грамадзкасьці ў справе зьнішчэньня няпісьменнасьці—нікога не цікавіла, бо раённы інспэктар асьветы клапаціцца і ўпэўнен у тым, што ўсе сродкі, вызначаныя паводле каштарысу на зьнішчэньне няпісьменнасьці, будуць выкарыстаны цалкам.

Ці ёсьць у Уваравічах плян зьнішчэньня няпісьменнасьці. На гэта адказаць цяжка—раённы інспэктар і настаўніцкая канфэрэнцыя адзначылі ў сваёй пастанове, што: «сетку прошедшего года считать удовлетворительной и принять за основу и пользоваться в этом учебном году», зусім запамятаўшы, што яе трэба павялічыць амаль што ў чатыры разы і перабудаваць нанова.

Падзелу працы ліквідацыі няпісьменнасьці паміж дзяржаўнымі ўстановамі і грамадзкімі арганізацыямі няма, ды грамадзкія арганізацыі і ня думаюць займацца справаю ліквідацыі няпісьменнасьці, бо дырэктывы, якія па акруговаму пляну правядзеньня месячніка «За грамату», у Гомельскай акрузе павінны былі давацца па ўсіх арганізацыях, партыйных, савецкіх і грамадзкіх, да пачатку месячніка дадзены ня былі.

Раённага савету т-ва «Прэч няпісьменнасьць» няма, хоць з Гомелю і быў наказ утварыць яго, але-ж зрабіць гэта ніяк не хапіла часу. Па раёну ячэйкі т-ва «Прэч няпісьменнасьць» (як беспрытульная) жывуць, як давядзецца.

Наогул, робіцца такое ўражаньне, што справа зьнішчэньня няпісьменнасьці ў Уваравічах стаіць далёка не на належным узроўні.

**Мухін.**

